www.nv-online.info

№ 32 (3977)

24 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# 26 красавіка – 29-я гадавіна чарнобыльскай катастрофы

***26 красавіка 1986 года з-за грубых парушэнняў правіл ядзернай бяспекі адбылася буйнейшая ў гісторыі чалавецтва тэхнагенная аварыя.***

У 1 гадзіну 23 хвіліны 58 секунд рэактар і будынак 4-га энергаблока Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі былі разбураны серыяй магутных выбухаў. З разбуранага энергаблока на вялікую вышыню вылецелі палаючыя кавалкі, іскры і полымя. Вецер панёс іх у бок Беларусі. На тэрыторыю нашай краіны прыпала 70% усяго радыеактыўнага забруджвання. У эканамічным разліку страты Беларусі складаюць прыкладна 235 мільярдаў долараў ЗША.

У момант выбуху загінулі два работнікі станцыі. Больш за 30 чалавек памерлі на працягу першых трох месяцаў пасля аварыі.

Для ліквідацыі наступстваў мабілізавалі больш за 600 тысяч чалавек.

У зоне забруджвання апынулася каля 2 млн 100 тыс. чалавек (25% беларускага насельніцтва).

У выніку аварыі з сельскагаспадарчага абароту было выведзена каля 5 млн га зямлі.

4 мая 1986 г. беларускае кіраўніцтва прыняло рашэнне аб адсяленні насельніцтва з 30-кіламетровай зоны вакол ЧАЭС, у першую чаргу з Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў. Гэта забароненая для свабоднага наведвання тэрыторыя, якая найбольш пацярпела пасля катастрофы.

З 30-кіламетровай зоны былі эвакуіраваны больш за 115 тысяч чалавек.

Праз 29 гадоў пасля аварыі плошча забруджаных радыяцыяй тэрыторый Беларусі зменшылася ў 1,6 раза, да 30 тыс. кв. кіламетраў.

У першыя тыдні пасля аварыі на 4-м блоку Чарнобыльскай атамнай станцыі найбольшую небяспеку для насельніцтва прадстаўлялі кароткачасовыя радыеактыўныя ізатопы, перш за ўсё ёд-131. З цягам часу "Грынпіс" і Міжнародная арганізацыя "Урачы супраць ядзернай вайны" заявілі, што ў выніку аварыі памерлі дзясяткі тысяч чалавек.


***(На 3–4-й старонках чытайце дакументальны матэрыял Валера Санько пра самыя драматычныя дні, звязаныя з трагедыяй на Чарнобыльскай АЭС.)***

(На 3–4-й старонках чытайце дакументальны матэрыял Валера Санько пра самыя драматычныя дні, звязаныя з трагедыяй на Чарнобыльскай АЭС.)

Цэзій-137 і стронцый-90 маюць перыяд паўраспаду больш за 30 гадоў.

Праблему негатыўнага ўздзеяння малых доз радыяцыі на жывы арганізм у свой час узнімаў доктар медыцынскіх навук, прафесар Юрый Бандажэўскі. У 1999 годзе ён быў зняты з пасады рэктара Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, арыштаваны па падазрэнні ў атрыманні хабару і асуджаны на восем гадоў пазбаўлення волі. Аднак, на думку праваабаронцаў, сапраўднай прычынай арышту Бандажэўскага стала яго нязгода з палітыкай улад па пераадоленні наступстваў аварыі на ЧАЭС.

Прафесар Бандажэўскі, які пасля шасцігадовага зняволення выехаў з Беларусі, упэўнены: для ратавання беларускай нацыі неабходны карэнныя змены ў палітыцы і эканоміцы Беларусі. На адной з міжнародных канферэнцый вучоны заявіў, што цяперашняя дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі «блізкая да катастрофы» з-за вялікага росту захворвання, якое прыводзіць да павелічэння смяротнасці і зніжэння нараджальнасці.

Няўгодныя ўладам даследаванні праводзіў і член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Іван Нікітчанка, які трагічна загінуў у ДТЗ у лістападзе 2010 года. Некалькі гадоў таму група спецыялістаў пад яго кіраўніцтвам распрацавала новую канцэпцыю бяспечнага пражывання людзей на постчарнобыльскіх тэрыторыях. Сутнасць канцэпцыі зводзіцца да таго, што радыенукліды шкодныя для арганізма ў любой колькасці.

**ШТО ХВАЛЮЕ...**

## Пенсіі падрастуць, але не ўсе

Адказваючы на пытанне аб тым, ці чакаецца ў маі чарговае павышэнне пенсій, міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна, якая праводзіла анлайн-канферэнцыю на сайце ведамства, праінфармавала:

*«На перыяд з 1 мая па 31 ліпеня будзе ўстаноўлена новая велічыня бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Зыходзячы з гэтай велічыні, з 1 мая будуць пераразлічаны памеры павышэнняў, надбавак і даплат, што выплачваюцца да пенсій. Адначасова з гэтай даты будуць пераразлічаны сацыяльныя і мінімальныя працоўныя пенсіі, памеры якіх таксама вылічваюцца зыходзячы з велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму».*

**ВІЗІТ**

## Пакарыцель грузінскіх сэрцаў

Аляксандр Лукашэнка ў Тбілісі падражніў Расію. На сустрэчы з грузінскім калегам Георгіем Маргвелашвілі ён назваў Абхазію часткай Грузіі. Хаця, нагадаем, у Расіі паліткарэктным лічыцца называць Абхазію і Паўднёвую Асецію незалежнымі дзяржавамі, а за выраз "украінскі Крым" можна нават трапіць у турму.



Добра вядома, што ў свой час паміж Аляксандрам Лукашэнкам і Міхаілам Саакашвілі былі добрыя, нават сяброўскія адносіны. Але гэты візіт у Тбілісі для беларускага кіраўніка першы. "Сорамна, але я ніколі не быў у Тбілісі і фактычна нідзе ў Грузіі, акрамя Абхазіі," – прызнаўся Аляксандр Лукашэнка перад пачаткам сустрэчы з Георгіем Маргвелашвілі адзін на адзін.

Абхазскае і асецінскае пытанне – гэта, дарэчы, для Тбілісі была ледзь не галоўная палітычная мэта візіту беларускага кіраўніка.

«З палітычных тэм у першую чаргу я б падкрэсліў важнасць такіх, як палітыка падтрымкі суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Грузіі, падтрымка палітыкі непрызнання (незалежнасці Абхазіі і Цхінвальскага рэгіёна). Што тычыцца напрамкаў эканомікі, гандлю і турызму – у гэтых сферах будуць аформлены пагадненні», – заявіў журналістам дарадца прэзідэнта Грузіі па міжнародных адносінах Тэнгіз Пхаладзе.

І Лукашэнка не падвёў.

Расійскія СМІ адрэагавалі імгненна. Некаторыя нават выставілі беларускага кіраўніка проста недасведчаным чалавекам: маўляў, дапусціў такую памылку, прадэманстраваў такое няведанне геаграфіі, што можа адбыцца дыпламатычны скандал.

Але, канешне, гэта была не памылка, і Лукашэнка добра падумаў, перш чым заняць такую пазіцыю. Па крайняй меры ў свой час расійскі ціск на яго па пытанні прызнання незалежнасці Абхазіі і Паўднёвай Асеціі быў вельмі моцным, але Беларусь так і не прызнала гэтыя краіны. Таму для Грузіі Аляксандр Лукашэнка асабіста і беларусы як нацыя – вялікія сябры. Праўда, у эканамічным супрацоўніцтве гэта пакуль не надта бачна. Цяперашні візіт мае на мэце выправіць гэтыя хібы.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**ДАРЭЧЫ**

Аляксандр Лукашэнка падчас візіту ў Грузію будзе мець магчымасць пазнаёміцца не толькі з Тбілісі, але і з Батумі, які са звычайнага партовага горада літаральна за некалькі гадоў быў ператвораны ў сапраўдны курорт.

**ЧУЛІ?**

## «Белавія» набыла яшчэ адзін "Боінг"

Другі самалёт тыпу BOEING 737-800NG прызямліўся ў Нацыянальным аэрапорце 22 красавіка. Паветранае судна набыта авіякампаніяй у аператыўны лізінг на 5 гадоў. Boeing 737-800NG прызначаны для перавозкі 189 пасажыраў у эканамічным класе абслугоўвання.

Генеральны дырэктар ААТ «Авіякампанія «Белавія» **Анатоль Гусараў** адзначыў, што наяўнасць двух такіх самалётаў у летні сезон дазволіць выконваць рэгулярны рэйс у Алматы (Казахстан) і чартарную праграму ў Агадзі (Марока). *"Акрамя палётаў у Марока мы плануем выконваць чартарныя рэйсы ў Анталію, Ізмір, Салонікі і іншыя запатрабаваныя курорты»,* – адзначыў Гусараў.

Дарэчы, першы BOEING 737-800NG кампанія "Белавія" таксама набыла сёлета – у студзені і таксама ў лізінг на 6 гадоў. Кошт і першага, і другога авіясудна складае каля 28 мільёнаў долараў.

**НУ І НУ!**

## Аддалі добраахвотна больш за 1 мільярд рублёў

У Віцебску ўпраўленнем Следчага камітэта завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 63-гадовай віцябчанкі, абвінавачанай у махлярстве, – пенсіянерка скрала ў даверлівых людзей больш за мільярд рублёў.

У ходзе следства ўстаноўлена, што жыхарка Віцебска на працягу пяці гадоў прадстаўлялася службовай асобай, у чыю кампетэнцыю нібыта ўваходзіць разгляд пытанняў аб выдзяленні кватэр. За ўзятыя на сябе абавязацельствы, якія загадзя не мела намеру выконваць, абвінавачаная брала ў пацярпелых грашовыя сродкі. Сумы вар'іраваліся ад 4 да 170 мільёнаў рублёў. Ад злачынных дзеянняў абвінавачанай пацярпелі больш за 30 чалавек, якія маюць розны сацыяльны статус і ўзрост.

**ПАЛІТКУХНЯ**

# Прыкметы прайдзісвета

Чулі? Адыёзны палітык – старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі **Сяргей ГАЙДУКЕВІЧ** прапанаваў пасады некаторым апазіцыйным лідарам. Праўда, пры ўмове, што тыя падтрымаюць яго кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах.

Умова дзіўная, бо С.Гайдукевіч не ўпершыню вырашыў вылучацца кандыдатам у прэзідэнты. Праўда, кожны раз правальваўся з трэскам. Больш за тое, ён не змог прайсці нават у Мінскі гарадскі Савет: унутранку шэльмы людзі бачаць, як кажуць, наскрозь.

Бадай, не было выбараў, каб кандыдат Гайдукевіч не заяўляў, што найлепшы прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду – Аляксандр Лукашэнка. Скажаце, чалавек хворы на галаву: як можна самому прэтэндаваць на прэзідэнцкае крэсла і гаварыць, што яго сапернік найлепшы кандыдат?

І тым не менш, да чарговых прэзідэнцкіх выбараў яшчэ прыкладна паўгода, а палітыканствуючы Гайдукевіч раздае пасады. **Аляксандру Мілінкевічу** (рух «За Свабоду») прапанаваў крэсла віцэ-прэм'ера, **Уладзіміру Някляеву** (былому кіраўніку кампаніі «Гавары праўду!») – намесніка міністра культуры, **Таццяне Караткевіч** («Гавары праўду!») – начальніка ўпраўлення Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, **Андрэю Дзмітрыеву** («Гавары праўду!») – намесніка міністра фінансаў, **Аляксею Янукевічу** (Партыя БНФ) – намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны, **Віталю Рымашэўскаму** (аргкамітэт па стварэнні партыі БХД) – начальніка ўпраўлення Міністэрства спорту і турызму, **Паўлу Севярынцу** (аргкамітэт па стварэнні партыі БХД) – старшыні камітэта па справах рэлігій пры Саўміне, **Сяргею Калякіну** (Беларуская партыя левых «Справядлівы свет») – міністра працы і сацыяльнай абароны.

"Народная Воля" пацікавілася, як успрынялі чарговую абракадабру карыкатурнага палітыка С.Гайдукевіча некаторыя вышэйпералічаныя асобы.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:**

*– Гэта спроба ператварыць сур'ёзную палітычную кампанію ў фарс. Смяшкі, анекдоты... Усё дзеля таго, каб потым улада магла паказваць пальцам і казаць: "Ну вось, бачыце? Куды ім ва ўладу? Яны ж ні на што не здольныя. Давядзецца мне зноў ісці на выбары, бо там жа адны клоўны".*

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ:**

*– Ну, сам лідар ЛДПБ прызнаў той факт, што без Партыі БНФ ён не змог бы кіраваць краінай!..* (Смяецца.) *Натуральна, сур'ёзна яго прапанову разглядаць нельга, ды і нецікава фантазіраваць на гэтую тэму.*

**Таццяна КАРАТКЕВІЧ:**

*– Каб быць больш эфектыўнымі і змагацца за галасы выбаршчыкаў, мы стварылі кааліцыю "Народны рэферэндум". Можам прапанаваць спадару Гайдукевічу далучыцца да нашай кампаніі. Пакуль ні ён, ні мы не ва ўладзе. Мы можам аб'яднацца і сумесна шукаць шляхі да перамен.*

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ:**

*– Прадаваць тое, чаго ў цябе няма і ніколі не будзе, – дакладная прыкмета прайдзісвецтва і авантуры. Сёння патрэбна не авантура, а праграма перамен, воля да яе рэалізацыі і падтрымка грамадства. Мы ў «Народным рэферэндуме» ідзём гэтым шляхам. І пасада ў такім выпадку не важна, важны справа і вынік – сапраўдныя перамены.*

**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ:**

*– Я "ўдзячны" за такую высокую пасаду і адмаўляюся ад прапановы.*

**Віталь РЫМАШЭЎСКІ:**

*– Лічу, што гэта запознены першакрасавіцкі жарт. Матывацыя невядомая, але гэта несур'ёзная заява.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

**АКТУАЛИИ**



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Большой обман

Синюшный мужчинка покупал в гастрономе «джентльменский набор»: бутылку водки, литр пива, две пачки сигарет. На вид – под пятьдесят, значит, в реальности около сорока. Среди бела дня – то есть работой не обременен. Тем не менее по виду – не бомж.

Уборщица, шморгая тряпкой, всячески пыталась покупателя зацепить. «Правильно за вас Лукашенко взялся! Тунеядцы! У меня два миллиона зарплата, и прожить надо, и дите поднять, но все равно налоги высчитывают. А эти только пьют, ничего не платят. Работать идите!»

– Я у тебя не крал, – огрызнулся мужчина. – Если и пью, то за свои...

Пьет он, конечно, не за свои. Он из моего двора, я его знаю. Родители умерли. Обстирывает, убирает, помогает ему деньгами сестра. Он перебивается случайными заработками, разгружая овощи на Комаровке. А еще растит щенков на продажу. «Налог на тунеядцев», введенный недавним декретом Александра Лукашенко, платить, конечно же, придется сестре.

За других таких же новый налог будут вынуждены заплатить или мать, или жена, или дети... Потому что не каждый решится своими руками отправить родного человека в тюрьму. Было у них Божье наказание – непутевый брат, сын, муж, а теперь еще и государство «посочувствовало», дополнительные деньги потребовав.

И тем не менее вот такие уборщицы Александра Лукашенко горячо поддерживают. Они уверены, что со своей зарплатой в 2–3 миллиона поднимают родное государство налогами. Не то что пьяницы-тунеядцы!

Удивительно, однако, что многие образованные люди тоже купились на эту чушь, распространяемую на государственном уровне. На этот откровенный обман. Потому что вне зависимости от того, работает человек или нет, он все равно платит налоги. Просто не может не платить!

Вы позвонили по телефону – в стоимость звонка заложен налог, вы купили хлеб – в цену заложен налог, вы купили портрет Александра Лукашенко – в цену тоже заложен налог... Причем в стоимости алкогольных напитков и сигарет (так называемых подакцизных товаров) он особенно высокий.

Возьмем наш «джентльменский набор» – бутылка водки, литр пива, две пачки сигарет.

Водка – 65 тысяч рублей. 70% ее стоимости – это акциз (налог). То есть, купив бутылку водки, человек заплатил 45 тысяч 500 рублей в виде налога.

Литр пива – 22 тысячи. В его стоимости акциз где-то 40%. Таким образом, при покупке пива было заплачено еще 8800 в виде налога.

2 пачки сигарет – 16 тысяч, из них приблизительно 6500 – это акциз.

Вот и посчитаем, какой налог мой дворовый пьяница уплатил только за одну покупку – 60.800 рублей! А ведь в магазин он ходит не раз в месяц. И если даже брать по минимуму (что закупки делаются только два раза в неделю), то налоги за месяц составят без малого 500 тысяч рублей.

Государство не дурное, именно поэтому спиртное у нас рекой льется, а винно-водочных производств – больше, чем игрушечных фабрик. Алкоголик – это горе семье, но государству – живые деньги!

А что возьмешь с непьющей добропорядочной мамаши семейства, у которой зарплата 2–3 миллиона? Она, конечно, уверена, что своими налогами содержит и поликлиники, и школы, и каждого пьяницу. Но всё далеко не так.

Берем нашу уборщицу с ребенком и зарплатой, допустим, даже 3 миллиона. От этой суммы сразу надо отнять 730 тысяч, потому что это стандартный налоговый вычет для всех, у кого зарплата меньше 4 миллионов 420 тысяч рублей.

Дальше отнимаем 210 тысяч рублей – на каждого ребенка до 18 лет.

Таким образом, при зарплате 3 миллиона наша уборщица с одним ребенком платит налоги с суммы 2 миллиона 60 тысяч рублей. Это 267.800 рублей подоходного налога и 3000 рублей – в пенсионный фонд. Итого: 270.800.

А ведь Беларусь – страна маленьких зарплат. Согласно статистике, в 70% организаций в январе этого года зарплата была меньше 5 миллионов рублей. То есть даже не самый активный пьяница во время своих походов в магазин оставляет государству в 2–3 раза больше, чем многие честные труженики со своими копеечными заработками.

Есть и другой аспект проблемы, о котором предпочитают не говорить: там, где зарплаты хорошие, люди за работу держатся, не увольняются, не пьют. Ну а не соглашаться работать за копейки – тоже законное право каждого.

Это, конечно, не означает, что надо закрывать глаза на то, что страна спивается, что не надо бороться с этим злом. Но, извините, это наши люди. И какими бы они ни были, но за свое лечение, за школы и садики для своих детей, даже за милицию и вытрезвители они платят сполна.

И не из-за пьяниц у нас повсеместно построены новые здания РОВД, судов, прокуратур, а вот примеры новых больниц – единичны.

Не из-за пьяниц хватает денег на обновление автопарка чиновников, на бесконечные ремонты рай-, гор-, облисполкомов, а на сельские ФАПы, библиотеки, школы денег хронически не хватает.

Не из-за пьяниц многие наши модернизированные производства стали еще большей обузой для экономики, чем были до модернизации.

Только про это власть предпочитает не говорить. Зато в преддверии президентских выборов обществу подбросили пустышку-обманку под названием «борьба с тунеядцами».

Звучит красиво, но по сути – большой обман.

